Юрый Чавусаў

# Падсумаванне палітыкі: палітычныя штогоднікі як жанр

## I. Апісанне беларускае палітыкі: агульны стан

У беларускай палітычнай навуцы назіраецца пэўная адарванасць тэарэтычных разважанняў ад эмпірычнага матэрыялу, разрыў паміж тэорыяй і эмпірыкай. Айчынная паліталогія спраўна прадукуе разнастайныя тэарэтычныя мадэлі, датычныя палітычнага працэсу, аднак большасць з іх слаба звязаная з нейкімі дадзенымі эмпірычнага характару, а тым больш з эксперыментальнай альбо іншай верыфікацыяй высунутых гіпотэзаў. Спекулятыўная веда пра *палітычнае* пануе не толькі ў айчыннай філасофіі, але і ў палітычнай тэорыі, прадукты якой часцей за ўсё не адпавядаюць крытэру фальсіфікацыі як магчымай прыкмеце навуковай веды. Прынцыповая неаправяржальнасць большасці тэорыяў, датычных палітычных працэсаў у Беларусі, адсутнасць у іх спасылак на вынікі даследаванняў закладае зерне сумневу ў сапраўды рацыянальным характары высноваў пра беларускую палітычную сістэму і прымушае змяшчаць іх у найлепшым выпадку ў сферу філасофскай, а не навуковай веды. У іншых выпадках палітычная рэфлексія відавочна палягае ў рэчышчы ідэалагічнага мыслення альбо рэлігійнага светапогляду, што здымае з яе абавязак ў эмпірычным абгрунтаванні тэзаў, аднак пры гэтым выключае прэтэнзію на аб'ектыўнае адлюстраванне рэчаіснасці з навуковых пазыцыяў. І нават у тых паліталагічных тэорыях, якія маюць нейкае эмпірычнае абгрунтаванне, звычайна выкарыстоўваюцца дадзеныя, атрыманыя даследнікамі з іншых галінаў навукі (гісторыя, сацыялогія, макраэканоміка, права), а зусім не ўласна палітычныя даследаванні. Палітыка як самастойны прадмет канкрэтнага эмпірычнага даследавання звычайна не карыстаецца ўвагай навукоўцаў, чаму прычынай ёсць комплекс чыннікаў як суб'ектыўнага, так і метадалагічнага парадку.

Азначаны феномен знаходзіць свае праявы і ў літаратуры на палітычныя тэмы, у той яе частцы, што прэтэндуе на аб'ектыўнае выкладанне матэрыялу, не скажонае оптыкай будзь-якой ідэалогіі. З аднаго боку, маецца паўнаводная плыня публікацыяў, якія ўтрымліваюць канцэптуальныя сцвярджэнні, фармулююць тэорыі, ствараюць мадэлі, але пры гэтым яны ў самай невялікай ступені грунтуюцца на матэрыялах даследаванняў. Звычайна менавіта падобная паліталагічная літаратура з прэтэнзіяй на навуковы характар ствараецца ў межах працоўнага кабінета аўтара,

без «выхаду ў поле». На фоне катастрафічна малой колькасці паліталагічных публікацыяў на беларускія тэмы менавіта падобныя кнігі і артыкулы звычайна ствараюць корпус тэкстаў, што прэзэнтуюцца ў публічнай прасторы як здабытак беларускай палітычнай навукі. У сітуацыі існавання ў беларускай акадэмічнай навуцы дзяржаўнай ідэалогіі як навучальнага прадмета гэтая плыня публікацыяў непазбежна зліваецца з мемуарнымі, біяграфічнымі, публіцыстычнымі і ідэалагічнымі тэкстамі, у той альбо іншай ступені датычнымі палітыкі. Таксама жанравыя і стылёвыя межы размываюцца праз публікацыю гэтых матэрыялаў у інтэрнэт-крыніцах, у якіх яны часцяком змяшчаюцца побач з тэкстамі, напісанымі ў жанры палітычнага каментара на надзённую праблематыку (своеасаблівая «поп-паліталогія» за аўтарствам як журналістаў, гісторыкаў і эканамістаў, так і дыпламаваных палітолагаў). Не рэдкасць, калі тэкст пачынаецца з агляду пэўнай тэорыі, часам з цытаваннем замежных крыніцаў, пасля ён працягваецца суб'ектыўнай рэфлексіяй з нагоды бягучых палітычных падзеяў альбо нават крытыкай прамоваў і ўчынкаў палітыкаў, а завяршаецца парадамі дыдактычнага кшталту на адрас палітычных суб'ектаў альбо сцэнарамі і прагнозамі канспіралагічнага характару. У выніку асноўны масіў гэтай літаратуры толькі фармальна адносіцца да навукі і ўяўляе каштоўнасць адно што для другаснага аналізу як адлюстраванне існага стану рэфлексіі з нагоды палітычнага.

З іншага боку, маецца значна менш насычаная плыня даследчага матэрыялу па палітычным прадмеце ў шырокім сэнсе. Гэта матэрыялы эмпірычных даследаванняў, заснаваныя на іх тэорыі. Пераважная частка тэкстаў у гэтай плыні датычная разнастайных сацыялагічных даследаванняў, аднак пры гэтым маюцца матэрыялы гістарычнага, правазнаўчага характару, а таксама даследаванні з выкарыстаннем метадалагічнага інструментара ўласна палітычнай навукі. Гэтыя матэрыялы яднаныя тым, што грунтуюцца на выніках аналізу і асэнсавання палітычнай рэчаіснасці навуковымі метадамі, заснаванымі на аналізе дадзеных, атрыманых пры вывучэнні нейкага канкрэтнага фрагмента палітычнай рэчаіснасці. Звычайна гэта тэксты адносна невялікага памеру, створаныя ў незалежных даследчых інстытуцыях альбо на перыферыі акадэмічнай палітычнай навукі, якія маюць параўнальна мала пляцовак для магчымай публікацыі. Яны скрайне рэдка перарастаюць у разгорнутыя канцэпцыі, аформленыя ў выглядзе асобных манаграфіяў. Зразумела, канцэптуалізацыя матэрыялаў гэткіх даследванняў у межах больш разгорнутых тэарэтычных мадэляў можа адбывацца і ў прыхаваным выглядзе, без адлюстравання ў публікацыях, але гэта робіць іх недасяжнымі для шырокага кола навукоўцаў і, па вялікім рахунку, практычна выключае з навуковага абмеркавання.

Падаецца, што гэткая адарванасць палітычнай тэорыі ад даследавання палітычнай практыкі высупае больш

сур'ёзнай перашкодай для развіцця палітычнай навукі, чым нават звыклы падзел паліталогіі на акадэмічную, «афіцыйную», і пазаакадэмічную, «незалежную». Пры такіх умовах самыя аб'ёмныя і груваcткія творы беларускай палітычнай навукі з найбольш сур'ёзнымі тэорыямі ў найлепшым выпадку паўстаюць аналагам сярэднявечных бестыярыяў, дзе слушныя і хібныя гіпотэзы пра беларускую палітыку выглядаюць аднолькава фантастычна і неверагодна.

Аднак Сярэднявечча дало літаратуры не толькі жанр бестыярыяў, але і ўзоры іншых літаратурных формаў, якія надзіва блізкія сучаснай палітычнай літаратуры. Напрыклад, менавіта ў познім Сярэднявеччы сярод календароў і астралагічных альманахаў вылучаюцца ў асобны жанр альманахі палацавыя і шляхецкія. Яны былі акурат той літаратурай, якая непасрэдна закранала тагачаснае палітычнае поле. Прынамсі, з пункту гледжання сучаснага палітычнага даследніка якраз гэтыя альманахі, а зусім не палітыка-філасофскія трактаты выконвалі ў той час функцыю, падобную да функцыі актуальнай паліталагічнай літаратуры. У альманахах друкаваліся навіны двара, як бы цяпер мы сказалі, кадравыя перастаноўкі ўнутры кіроўчай адміністрацыі. «*Almanache royal*», што выдаваўся ў Парыжы ў XVII ст. і змяшчаў радаводы ды спісы шляхты, дадзеныя пра духавенства, святы, кірмашы і падарожжы караля, сваім зместам надзіва падобны да таго жанру, які пашыраны ў сучаснай палітычнай літаратуры ў якасці палітычных штогоднікаў. Функцыйна гэтыя выданні належаць да адной плыні перыёдыкаў, якія маюць выключна практычнае значэнне і адначасова служаць каштоўнай крыніцай дадзеных для даследнікаў. Толькі ў выпадку са старажытнымі інкунабуламі гэтыя перыёдыкі ёсць матэрыялам, хутчэй, для гісторыкаў (у тым ліку па пытаннях палітычнай гісторыі), а сучасныя палітычныя штогоднікі змяшчаюць дадзеныя, незамяняльныя для даследнікаў, якія імкнуцца будаваць свае тэорыі на грунце рэальных фактаў палітычнага жыцця. Паводле сваёй прыроды гэтыя выданні найчасцей адрасаваныя тым, для каго палітыка ёсць рамяством, але ж без гэтых звестак не абысціся і таму, хто жадае вывучыць нормы і сакрэты гэтага рамяства.

## II. Палітычныя штогоднікі як жанр

Сучасная палітычная літаратура дае прыклады некалькіх падыходаў да складання гадавых альбо іншых перыядычных аглядаў палітычнай сістэмы і палітычнага працэсу. Усе яны яднаныя тым, што імкнуцца зафіксаваць стан палітычнага жыцця за пэўны, адносна працяглы перыяд, вылучаны альбо паводле календара, альбо паводле выбарчага цыкла палітычнай актыўнасці, альбо паводле нейкай іншай прыкметы. Такім чынам, іх яднаюць прадмет (палітыка ў шырокім разуменні) і часавыя межы агляду (год, палітыка-электаральны цыкл і інш.). Ад іншага кшталту штогоднікаў і рэгулярных выданняў палітычныя штогоднікі

адрозніваюцца прадметам даследавання, таму ў дадзеным тэксце амаль не звяртаецца ўвага на разнастайныя статыстычныя зборнікі, штогадовыя гаспадарчыя агляды, дзяржаўныя і альтэрнатыўныя справаздачы. Таксама ў сферу нашай увагі не патрапляюць і выданні, якія хоць і могуць закранаць пытанні палітычнага ды выходзіць штогод, але належаць да іншых галінаў гуманітарнай веды (напрыклад, гістарычныя штогоднікі, што выдаюцца Нацыянальнай Акадэміяй навук Беларусі альбо Еўрапейскім гуманітарным універсітэтам у Вільні (Homo historicus 2008), — у падобных выпадках перыядычны характар выданняў як штогоднікаў не вымушае выдаўцоў і аўтараў абмежавацца аналізам падзеяў за гадавы перыяд.

Прадметам вывучэння ў нашым тэксце выступае менавіта такі адмысловы фармат ці жанр перыядычнай літаратуры на палітычныя тэмы, які надалей мы будзем дзеля лаканічнасці называць палітычнымі штогоднікамі. Але ж дадзены фармат не ёсць канвенцыйна ўзгоднены, і ў свеце існуе некалькі падыходаў да ўкладання такога кшталту выданьняў. Мы вылучаем гэтыя падходы на падставе тэхнічных характэрыстык розных выданняў, якія могуць быць ідэнтыфікаваныя як палітычныя штогоднікі. Пры тым у сваіх дэвіянтных формах асобныя выданні зазнаюць уплыў іншых формаў паліталагічнай, даведачнай і статыстычнай літаратуры, што да палітычных штогоднікаў не адносяцца.

***Афіцыйная хроніка, эліта і лідэрства*** могуць служыць, напэўна, самымі простымі адпраўнымі пунктамі і крытэрам для фармавання агляду палітычных падзеяў за год. Згаданы вышэй старажытны падыход «кадрава-адміністрацыйнага» палацавага альманаха не застаўся забытым і ў наш час. Ягоная лінія працягваецца, напрыклад, у перыядычных выданнях, якія робяць акцэнт на ўрадавай хроніцы альбо на змяненнях у колах кіроўчай эліты. Расейскія выдаўцы, відаць, давялі гэтую ідэю да максімальнай чысціні, звярнуўшыся да публікацыі працоўнага штодзённіка прэзідэнта, дзе праз упарадкаваны спіс падзеяў і фактаў у храналагічным парадку з тлумачальнымі даведкамі па змесце і кантэксце парадку дня вышэйшай службовай асобы (перамовы, візіты, прамовы, афіцыйныя і неафіцыйныя сустрэчы, падпісанне міжнародных дамоваў і ўнутраных прававых актаў) даецца ўяўленне пра змест палітычнага года ў сённяшняй Расейскай Фэдэрацыі (Рабочий ежедневник..., 2005). Напэўна, укладальнікі дадзенага незвычайнага «летапісу» сапраўды здолелі такім арыгінальным чынам праз працоўны графік прэзідэнта даць аб’ектыўную панараму палітычнага года, бо з улікам аўтарытарных тэндэнцыяў у расейскай палітычнай сістэме любая важная падзея тым альбо іншым чынам у гэты графік патрапляе. Сімвалічна, што раней у гэтай краіне былі папулярныя іншыя фарматы, якія аддавалі ўвагу не так працоўнаму графіку кіраўніка дзяржавы, як біяграфічным заўвагам адносна персаналіяў з уладных колаў на рэгіянальным і нацыянальным

узроўні (Политическая элита, 2003). Такім чынам, абраны ў Расейскай Федэрацыі падыход да ўкладання палітычнага штогодніка ілюструе асаблівасці нацыянальнай палітычнай сістэмы і яе дынаміку.

Зразумела, што факусаванне ўвагі на асобе лідэра і колах элітаў ўласцівае не толькі аўтарытарным і алігархічным палітычным сістэмам. Дакладней, паколькі тая альбо іншая ступень аўтарытарнасці альбо алігархічнасці характэрная для любога палітычнага рэжыму, такі падыход можа быць выкарыстаны палітычнымі назіральнікамі пры стварэнні гадавога агляду практычна ў кожнай краіне. Так, найбольш папулярны і пашыраны двухгадовы агляд амерыканскага палітычнага жыцця будуецца ў вялікай ступені з улікам элітарнага і персанальнага пачатку ў амерыканскай палітыцы (Politics in America 2008, 2007). Аднак асноўны фокус у ім робяць усё ж такі на пытаннях ***выбарчага і законатворчага працэсу***, што дае нам падставы вылучыць яго ў якасці прыкладу іншага падыходу. Гэтае амерыканскае выданне падрабязна інфармуе чытачоў пра жыццё сенатараў і сябраў палаты прадстаўнікоў, аналізуе кадравыя прызначэнні ў адміністрацыі прэзідэнта, але асноўным прадметам ёсць выбары і выбарчыя кампаніі ва ўсіх іх аспектах. Паказальна, што у гэтым выданні нават назва кожнага выпуску датуецца не годам альбо нумарам выпуска, што ўласцівае большасці еўрапейскіх палітычных штогоднікаў, а парадкавым нумарам склікання кангрэсу — нават ва ўмовах кіравання моцнага прэзідэнта фармальным крытэрам для вымярэння палітычнага цыкла застаецца парламент. Укладальнікі знаёмяць чытачоў з кожным сябрам кангрэсу, прыводзяць біяграфічныя звесткі і характарызуюць ягоны «персанальны палітычны стыль», даюць статыстыку па кантактах з лабістамі і ўдзелу ў прасоўванні законапраектаў, інфармацыю па тым, як галасаваў разгляданы палітык па ключавых альбо спрэчных законапраектах, як працаваў у камітэтах і камісіях, што адбывалася ў той акрузе, дзе быў абраны кангрэсмэн альбо сенатар (улучна з мапамі па галасаванні, дэмаграфічнымі і сацыялагічнымі дадзенымі).

Сумяшчэнне розных вымярэнняў палітычнага аналізу (ад абставінаў фінансавання выбарчай кампаніі да характару стасункаў з прэсай на Капіталійскім пагорку) робіць гэтае выданне незамяняльным пры вывучэнні амерыканскага палітычнага працэсу. Да таго ж такі падыход і руплівасць у ягонай рэалізацыі абумоўліваюць уплыў дадзенага выдання і на іншыя даследаванні, што факусуюцца на больш спецыфічных абставінах выбарчага і законатворчага працэсу (How they voted…, 2008). Такім чынам, калі ў межах папярэдняга падыходу ўкладальнікі імкнуцца толькі адказаць на пытанне, хто і якім чынам робіць палітыку, то ў гэтым падыходзе большая ўвага аддаецца адказу на пытанне, хто і чаму робіць менавіта *такую* палітыку.

У абодвух пазначаных варыянтах выданні не абыходзяцца без

выкладання хронікі падзеяў. Яна можа мець living рознае дачыненне да афіцыйнага пераліку пратакольных візітаў і заяваў падчас прэсавых канфэрэнцыяў, аднак прысутнічае ў той альбо іншай форме амаль ва ўсіх выданнях, якія мы адносім да палітычных штогоднікаў. Але часам мы бачым, што штогоднік можа цалкам складацца з паведамленняў, якія фігуравалі ў інфармацыйных стужках. Да іх могуць дадавацца выступы ў прэсе, прэс-рэлізы, артыкулы, што з'яўляліся на працягу справаздачнага палітычнага года. У прынцыпе найбольш грунтоўна і сістэматычна да гэтай працы падыходзяць інфармацыйныя агенцыі, якія ўкладаюць *штогоднікі-хронікі* з большай альбо меншай увагай да пытанняў нацыянальнага палітычнага жыцця (Синие страницы России, 1995). На працягу амаль трыццаці гадоў кітайская інфармацыйная агенцыя «Сіньхуа» выдае свой штогоднік, які служыць не толькі каштоўным даведнікам па падзеях сучаснай палітычнай гісторыі краіны, але і сам можа разглядацца як адлюстраванне эвалюцыі палітычнага рэжыму ў КНР (People's Republic of China Yearbook 2008, 2009).

Насычаны аналітыкай і каментарамі «Альманах амерыканскай палітыкі» (Barone, 2008; Barone, 1988) з'яўляецца таксама раз на два гады і служыць дапаўненнем да згаданага выдання «Палітыка ў Амерыцы». Альманах робіць акцэнт якраз на хроніцы, увязваючы яе з рэгіянальным вымярэннем палітыкі і дазваляючы бачыць амерыканскае палітычнае жыццё не толькі праз прызму Вашынгтона, але і з пункту гледжання штата альбо нават графства, дзе бягучыя палітычныя спрэчкі фармуюць парадак дня не толькі ў рэгіянальным, але і ў нацыянальным маштабе. Так альбо інакш, у межах гэтага падыходу акцэнт пастаўлены на падзеі і факты, укладальнікі імкнуцца пералічыць падзеі палітычнага жыцця, а высновы пакідаюць рабіць чытачам. Перавагі такога падыходу добра вядомыя тым, хто знаёмы з падыходамі гісторыкаў-пазітывістаў XIX ст. з іх культам факта і паблажлівым стаўленнем да высноваў, якія з яго вынікаюць. Аднак абазнаны чытач без цяжкасцяў прыгадае і асноўны аргумент, які высоўваецца супраць падобнага факталагічнага падыходу і гучыць рыкладна як «а на самай справе ўсё было інакш». Скажэнне фактаў — як свядомае, так і несвядомае, — а таксама тэндэнцыйны падбор гэтых фактаў — вось тыя падводныя камяні, якія не дазваляюць дадзенаму падыходу быць крыштальна чыстым і праўдзівым люстэркам палітычнага жыцця.

Супастаўленне фактаў, вылучэнне працэсаў і трэндаў, канцэптуалізацыя тэндэнцыяў і, зразумела, высновы на падставе фактаў непазбежна звязаныя з інтэрпрэтацыяй фактаў. У выніку працэс адбору фактаў накладае адбітак суб'ектыўнасці на ўсе палітычныя штогоднікі. І хоць большасць з іх імкнуцца быць аб'ектыўнымі, адэкватна адлюстроўваць ход палітычнага працэсу, аднак існуюць і *аўтарскія штогоднікі.* Гэта выданні падкрэс-

лена суб'ектыўнага характару, іх задача — не адлюстраваць падзею, а даць ёй ацэнку альбо нават выпрацаваць прагноз (апошняя задача таксама палягае па-за межамі кананічнага праблемнага поля палітычных штогоднікаў). Падобныя публікацыі — больш маргінальны жанр, не датычны навуковага падыходу да спазнання рэчаіснасці. Разам з выданнямі, рыхтаванымі палітычнымі партыямі, аўтарскія агляды палітычнага жыцця звычайна палягаюць па-за межамі навуковай літаратуры. Аднак пры ўмове аўтарытэтнасці асобы такое выданне можа быць вельмі актуальным і нават узначаліць спісы бэстсэлераў.

Традыцыйна ж большасць палітычных штогоднікаў ёсць калектыўнымі працамі. І тут надзвычай вялікая роля рэдактара, укладальніка, выдаўца альбо іншай адказнай асобы, што вызначае змест і характар выдання, паўстае ягоным абліччам. Некаторыя з рэдактараў становяцца сапраўднымі зоркамі, з іх імёнамі асацыюецца выданне палітычных штогоднікаў (напрыклад, гэта характэрна для абедзвюх амерыканскіх серыяў, згаданых вышэй). Гэтыя імёны часам служаць брэндамі, што прыцягваюць чытачоў і нават абумоўліваюць аўтарытэтнасць выдання незалежна ад таго, у якой выдавецкай інстытуцыі яно рыхтуецца.

Падкрэслены аўтарскі характар могуць мець асобныя артыкулы зборніка-штогодніка. Лічыцца, што камбінацыя розных суб'ектыўных пунктаў гледжання разам з выкладаннем фактычных абставінаў справы дазваляе стварыць адэкватную карціну гадавога палітычнага жыцця. Рэдактар можа не ставіць задачу прывесці найбольшую колькасць дадзеных: яны ёсць у медыях, а таксама ў выданнях хранікальнага кшталту. Задача можа палягаць у складанні *палітычнага штогодніка як зборніка магчымых інтэрпрэтацыяў*. Такі падыход дэманструе штогоднік «Італійская палітыка» (Italian Politics, 2003). Падкрэслены, але не экстрэмальны суб'ектывізм у межах гэткага падыходу выявіўся ягонай каштоўнасцю, ягоным метадалагічным ноў-хаў. Вынікі палітычнага года прэзэнтуюцца ў выглядзе падсумавання інтэпрэтацыяў як з боку палітычных навукоўцаў, даследнікаў, так і з боку непасрэдна заангажаваных у палітычны працэс дзеячаў. Акцэнт зроблены не на данясенне інфармацыі пра палітычны працэс, а на адлюстраванне наяўных інтэрпрэтацыяў і актуальнага парадку дня італійскай палітыкі. Паказальна, што з 1990-х гг. кожны з выпускаў штогодніка мае падзагаловак накшталт «Другі ўрад Бэрлюсконі» ў 2003 г. альбо «Канец першай рэспублікі» ў 1993 г. Нават у артыкулах, падрыхтаваных акадэмічнымі навукоўцамі для гэтага выдання, факты разглядаюцца не проста як біт інфармацыі, а як нагода для даследавання праблемы, звязанай з фактам. Напрыклад, выбух карупцыйнага скандалу ў справаздачным годзе выклікае з'яўленне артыкула на тэму карупцыі ва ўладзе, а гучны тэракт абумоўлівае з'яўленне артыкула пра тэрарызм і ягонае месца ў нацыянальных медыях. Суб'ектыўнае падвядзенне вынікаў натуральным

чынам абумоўлівае неаднародную структуру выдання, якая вагаецца ад года да года. Так, артыкулы пра стан прафесійнага спорту як індустрыі могуць з'явіцца адзін раз за дзесяць гадоў, калі ёсць пэўная нагода, таксама не ў кожным выпуску барацьба з карупцыяй адлюстроўваецца як асобны топік. Часам некаторыя спрэчныя законы, прынятыя парламентам, альбо асобныя пастановы судовых інстанцыяў робяцца тэмай для адмысловых артыкулаў у гэтых выданнях. З іншага боку, кааліцыйная барацьба, выбары, еўраінтэграцыя, міжнародная палітыка, эканамічная палітыка застаюцца тэмамі, якія адлюстроўваюцца штогод. Пры гэтым канкрэтныя падзеі бягучага палітычнага года аўтары выкарыстоўваюць як нагоду для пабудовы ў звязку з імі тэарэтычных мадэляў (напрыклад, датычных палітычных партыяў цэнтрысцкага характару ў сітуацыі апазіцыі да ўрадавай кааліцыі).

І наадварот, *колькасныя паказнікі* часам робяцца фетышам для ўкладальнікаў іншага кшталту штогоднікаў. Імкненне адлюстраваць усе магчымыя дадзеныя пра развіццё нацыянальнай палітычнай сістэмы і працэс стварэння публічнай палітыкі ў краіне на падставе колькасных метадаў даследавання прыводзіць да патрэбы змясціць у кнізе неабсяжны акіян дадзеных. Найбольш грунтоўным падаецца аўстрыйскі прыклад выкарыстання гэтага падыходу, скіраваны на максімальна магчымае адлюстраванне колькасных паказнікаў функцыянавання палітычнага апарату: тут суб'ектывізм зведзены да мінімуму, але акцэнт зроблены не на збіранні афіцыйнай хронікі і паведамленняў прэс-службаў і статыстычных ведамстваў, а на спробе сабраць усе колькасныя дадзеныя пра ажыццяўленне публічнай палітыкі ў розных галінах (Österreichisches Jahrbuch für Politik, 2005). Часам выданні такога кшталту набліжаюцца па форме да даведачных зборнікаў і адрозніваюцца ад іх адно невялікім каментарам і тым, што прадметам, пра які сведчаць лічбы, ёсць палітыка.

Натуральна, гэтыя падыходы вылучаныя намі толькі пры самым беглым вывучэнні асноўных палітычных штогоднікаў. Гэта ідэальныя тыпы, і ўкладальнікі з той альбо іншай ступенню поспеху камбінуюць дадзеныя падыходы. Пераважная большасць палітычных штогоднікаў, што з'яўляюцца ў краінах з дэмакратычным ладам, уяўляюць з сябе змяшэнне гэтых пачаткаў. Да таго ж у краінах з развітай палітычнай сістэмай звычайна друкуецца некалькі такіх выданняў, што робяць акцэнт на пэўным аспекце палітычнага жыцця. Як адзначалася, аўтарытэтныя амерыканскія штогоднікі розняцца ў падыходах і дапаўняюць адзін аднаго. У Аўстрыі апроч згаданага штогодніка існуе і альтэрнатыўнае выданне, вельмі адрознае па сваім фармаце, прысвечанае знешняй палітыцы (Salzburger Jahrbuch für Politik 2007, 2008).

Звычайна агульнапрынятае і найбольш папулярнае адно з выданняў у кожнай канкрэтнай краіне. Напрыклад, у Славаччыне Інстытут публічнай палітыкі выпускае нацы-

янальны палітычны штогоднік, які карыстаецца бясспрэчным аўтарытэтам (Slovensko 2008…, 2009). Напэўна, гэта адно з самых паспяховых у нашым рэгіёне гадавых выданняў такога кшталту. Такі статус забяспечаны якасцю працы, што вядзецца ўжо шмат гадоў (першая кніга выйшла ў 2003 г.), і тым практычна манапольным становішчам, якое выдаўцы займаюць на параўнальна невялікім славацкім паліталагічным рынку. Таксама гэтае выданне можна ахарактарызаваць як найбольш блізкае, а ў перспектыве нават мадэльнае для беларускіх штогоднікаў, пра якіх у нашым аглядзе вядзецца ніжэй.

Асобна ад агульнапалітычных штогоднікаў варта адзначыць кнігі, скіраваныя на вывучэнне толькі аднаго аспекту палітычнага жыцця. Найчасцей у якасці такога адмысловага аспекту вылучаецца знешняя палітыка (Rocznik polskiej polityki…, 2008) альбо нават асобныя яе кірункі (напрыклад, еўраатлантычная інтэграцыя ці палітыка рэгіянальнай бяспекі; Annuaire stratégique et militaire 2003, 2004).

Пры вывучэнні палітычных штогоднікаў немагчыма абмінуць традыцыю выдання так званых каляровых кніг, якія часта непасрэдна закранаюць палітычныя пытанні. Карані гэтай традыцыі таксама сягаюць у XVII ст., калі ў брытанскім палітычным жыцці з’явіліся «Сінія кнігі» — зборнікі дыпламатычных дакументаў альбо іншых матэрыялаў, выдаваных урадам для прадастаўлення парламенту альбо ягоным камісіям. Кожная кніга мела асобную назву, але ж агульнапрынятай неафіцыйнай назвай быў тэрмін «Сіняя кніга». Пазней адбылася рэцэпцыя гэтай традыцыі ў парламентах іншых краінаў (у Францыі пачалі выдаваць «Жоўтыя кнігі», аналагі з’явіліся ў Аўстра-Вугоршчыне, Нямеччыне і г. д.), пры гэтым тэматыка «каляровых кніг» была звязаная пераважна са знешняй палітыкай («Малінавыя кнігі» расейскага ўраду пра абставіны руска-японскай вайны). У ХХ ст. практыка выдання гэткіх тэматычных зборнікаў па пэўнай вузкай тэме стала надзвычай пашыранай і выйшла за межы ўрадавых і парламенцкіх колаў — «каляровыя кнігі» ў вялікай колькасці выдаюцца няўрадавымі арганізацыямі і міжнароднымі інстытуцыямі, пры тым для некаторых выданняў «каляровая атрыбуцыя» робіцца афіцыйнай назвай. Нягледзячы на тое што некаторыя «каляровыя кнігі» — серыйныя публікацыі, іхняя вузкаскіраваная тэматыка і арыентацыя на афіцыйныя дакументы або дакументы-першакрыніцы выводзяць іх па-за межы кола палітычных штогоднікаў.

На міжнародным узроўні, на фоне сотняў і нават тысячаў статыстычных, афіцыйных і неафіцыйных рэгулярных аглядаў, бясспрэчным аўтарытэтам стаў «Фрыдам Хаўз» (Freedom in the World, 2003). Ягоны аўтарытэт забяспечваецца і колам аўтараў, сярод якіх самыя вybітныя постаці сучаснай заходняй палітычнай навукі (заходняй у сэнсе метадалагічнай прыналежнасці, а не геаграфічнага месца жыхарства альбо нараджэння), і добра адпрацава-

най метадалогіяй складання гэтага выдання — яна не пазбаўленая хібаў, але вытрымлівае выпрабаванне часам ужо на працягу дзесяцігоддзяў (Чавусаў, 2004: 78–90). Іншыя аналагічныя агляды таксама выдаюцца разнастайнымі міжнароднымі арганізацыямі, аднак акцэнт робіцца звычайна на пэўных спецыфічных аспектах глабальнага палітычнага працэсу.

Такім чынам, у жанры штогадовага палітычнага агляду можна вызначыць дастаткова выразныя рамкі, вызначаныя пэўнымі вектарамі. Відавочнае імкненне да аб'ектывісцага падыходу: колькасныя паказнікі палітычнага працэсу, арыентацыя на факт, адлюстраванне электаральнага цыкла, кадравых перамяшчэнняў, зменаў у партыйнай сістэме і ў органах улады і г. д. У найбольш яскравым варыянце такі штогоднік максімальна насычаны табліцамі, графікамі, рэйтынгамі, спісамі, рэестрамі і храналагічнымі пералікамі і максімальна набліжаны да кампендыума афіцыйных статыстычных справаздачаў. Зразумела, што рэдактарскі адбор фактаў непазбежна накладае суб'ектыўны адбітак на змест выдання, але пры гэтым яно пазіцыянуецца як аб'ектыўнае адлюстраванне працэсаў, што адбываюцца ва ўладзе і, шырэй, у палітычнай сістэме.

Гэтай інтэнцыі супярэчыць іншая, суб'ектывісцкая, з яе арыентацыяй на адлюстраванне разнастайных меркаванняў і ацэнак падзеяў за справаздачны перыяд. Тут дамінуюць інтэрпрэтацыі фактаў, канцэнтрацыя ўвагі на асобах, прыватныя меркаванні, тэорыі, тлумачэнні і нават ацэнкі не з пункту гледжання палітычнай навукі, а з пункту гледжання практыкуючага палітычнага дзеяча. Напэўна, такі падыход, даведзены да абсурду, зводзіцца да нечага накшталт справаздачнай прамовы лідэра палітычнай партыі. Пры гэтым, натуральна, не абыходзіцца без спасылак на падзеі справаздачнага года і на колькасныя паказнікі, датычныя, напрыклад, эканамічнага развіцця.

З гэтымі трэндамі звязаны і іншы падзел, адлюстраваны праз арыентацыю ўкладальнікаў штогоднікаў на дынаміку альбо статыку палітычнага працэсу. Яны бачаць палітычную сістэму як апарат альбо механізм, які складаецца з пэўных інстытуцыяў, структураў, насычаных кадрамі, з пэўнай партыйнай арыентацыяй, з пэўнымі палітычнымі праграмамі. Акцэнт на палітычную сістэму абумоўлівае статычную карціну палітычнага поля. Але можа быць і іншы акцэнт, звязаны з увагай да палітычнага працэсу: тут пануе дынаміка, разглядаецца генеалогія, даецца тлумачэнне падзеям, малююцца сцэнары будучага развіцця падзеяў. Інстытуцыйны бок, натуральна, тут таксама адлюстроўваецца, але ўкладальнікаў цікавіць не структура інстытуцый палітычнай сістэмы, а іх развіццё, змены, эвалюцыя.

Іншы крытэр, які задае рамку для штогадовых перыёдыкаў, — гэта прадметны ахоп палітычнага поля. Тут мы бачым ваганні паміж агульнапалітычнымі аглядамі нацыянальнай палітычнай сістэмы за пэўны год і аглядамі спецыяльнага

характару, якія ахопліваюць пэўную сферу (напрыклад, падаткавая палітыка альбо палітыка ў галіне адукацыі), праблему (еўрапейская інтэграцыя краіны) ці пэўнае кола суб'ектаў (палітычныя партыі, дэпутацкі корпус). Пры гэтым выданні першага парадку звычайна маюць перыядычнасць, штучна прывязаную да календара (выходзяць раз на год) альбо аб'ектыўна прывязаную да выбарчых цыклаў, бо палітычны працэс у нацыянальным маштабе можна перыядызаваць толькі такім чынам. Выданні спецыяльнага характару могуць мець часавую прывязку не толькі да электаральных цыклаў, але і да іншых падзей у залежнасці ад прадмета агляду.

Генеалагічны падыход супраць строгага абмежавання аналізам падзеяў за справаздачны перыяд: гэтая апазіцыя не такая выразная, аднак яна выяўляецца пры складанні розных палітычных штогоднікаў. Падаецца, што выданні, калі пачынаюць выходзіць і няма пэўнасці, будуць яны рэгулярныя ці не, імкнуцца выйсці за вызначаныя часавыя межы, прааналізаваць генеалогію праблемаў і спрагназаваць іх развіццё ў будучыні (Беларуская палітычная сыстэма і прэзідэнцкія выбары 2001 году, 2001; Изменения в общей ситуации…, 2005). Палітычныя штогоднікі, якія выходзяць стала цягам доўгага перыяду, схільныя больш строга кіравацца фармальнымі часавымі межамі. У нейкім сэнсе менавіта здольнасць укладальнікаў трымацца пэўных метадалагічных межаў на працягу некалькіх выданняў, вызначае іх паспяховасць. І наадварот, ваганні ў падыходах, нават выкліканыя памкненнем удасканаліць фармат штогодніка, шкодзяць паслядоўнасці ўкладання і абумоўліваюць невялікую гістарычную вартасць гэткіх серыяў.

Паводле тэрытарыяльнага ахопу штогадовыя палітычныя агляды могуць быць самымі рознымі — ад невялікага суб'екта фэдэратыўнай дзяржавы да глабальнага агляду. Асобным кірункам паўстаюць краіназнаўчыя штогоднікі, якія выдаюцца па-за межамі краіны — аб'екта даследавання (звычайна вядзецца пра ключавыя дзяржавы свету; Япония 2003–2004, 2004). Але ж асноўны і найбольш пашыраны менавіта агляд на нацыянальным узроўні, на ўзроўні нацыянальнай палітычнай сістэмы як адзінкі, што робяць акадэмічныя інстытуцыі, медыйныя ўстановы, палітычныя партыі і асобныя навукоўцы.

## III. Палітычныя штогоднікі ў Беларусі

Відавочна, што існаванне той альбо іншай формы палітычнага штогодніка ў кожнай канкрэтнай краіне абумоўленае шэрагам фактараў, звязаных з сітуацыяй на кніжным рынку, станам выдавецтваў, наяўнасцю падрыхтаваных рэдактараў і іх схільнасцямі, трываласцю і асаблівасцямі традыцыі выдання і распаўсюдам паліталагічнай літаратуры і ўвогуле літаратуры на грамадска-палітычныя тэмы. Таксама відавочна, што на форму выдання штогоднікаў уплывае і шэраг аб'ектыўных фактараў, датычных стану палітычнай навукі ў

краіне і нормаў паводзінаў унутры акадэмічнай супольнасці, стану палітычнай сістэмы. Мае значэнне існы палітычны рэжым, форма праўлення, ступень цэнтралізацыі ўлады, выбарчая сістэма, партыйная сістэма, ступень свабоды слова і плюралізму.

Адлюстраваная карціна магчымых падыходаў у складанні гадавых палітычных аглядаў можа быць накладзеная і на беларускае поле палітычных публікацыяў. Спецыфіка беларускага досведу складання такіх справаздачаў аб развіцці палітычных інстытуцыяў палягае ў шэрагу асабліваcцяў. Апрача разрыву паміж эмпірыкай і тэорыяй можна вылучыць падзел палітычнай навукі на акадэмічную, «афіцыйную» і слаба інстытуцыяналізаваную, «незалежную» паліталогію. І тое, і другое колы выяўляюцца ў выдавецкай актыўнасці. Але абодвум уласцівая згаданая хіба: кампендыумы звестак пра канкрэтныя палітычныя падзеі слаба звязаныя з тэарэтычнымі пабудовамі адносна стану і развіцця айчыннай палітыкі. Таксама варта адзначыць відавочную беднасць беларускага рынку палітычных публікацыяў, які знаходзіцца амаль у зародкавым стане. Безумоўна, неразвітасць рынку і гранічна мізэрная колькасць паліталагічнай літаратуры абумоўленыя тым, што існая палітычная сістэма не спрыяе навуковаму плюралізму і накладае свой адбітак на форму і змест выданняў паліталагічнага характару.

На нашу думку, галоўнай складанасцю для выдаўца палітычнага агляду ў Беларусі будзе нястача інфармацыі: бракуе як афіцыйных дадзеных, так і статыстыкі, бракуе самых падставовых колькасных паказнікаў па палітычных пытаннях, катастрафічна не стае эмпірычных даследаванняў палітычнага матэрыялу. У выніку ўкладальнік выдання штогадовага агляду на беларускім матэрыяле патрапляе ў пракрустаў ложа абмежаванага інфармацыйнага поля і мусіць альбо самастойна арганізацваць збор усёй патрэбнай інфармацыі, альбо адмовіцца ад фармату «аб'ектыўнага» штогодніка і засяродзіцца на прэзентацыі магчымымых суб'ектыўных інтэрпрэтацыяў на фоне афіцыёзнай храналогіі. Менавіта адсутнасць інфармацыі абумоўлівае папулярнасць у беларускай публіцыстыцы падыходаў, якія прынята называць «аналітыкай», што парадаксальным чынам у абсалютнай большасці грунтуюцца на адсутнасці нават ускосных дадзеных. Адсутнасць альбо нястача фактаў у такой працы не ёсць падставай, каб заявіць пра немагчымасць рабіць высновы. Але наяўныя ў Беларусі выданні на палітычныя тэмы з малой перыядычнасцю дэманструюць, што пры ўсёй беднасці айчыннага рынку паліталагічнай літаратуры і нястачы фактычнага матэрыялу для абагульненняў некаторыя выдаўцы знаходзяць шляхі для стварэння выданняў, у асноўных рысах адпаведных рэгіянальным стандартам літаратуры такога кшталту.

Спроба знайсці ў акадэмічнай і афіцыйнай палітычнай навуцы публікацыі, якія б служылі аналагам згаданых замежных палітычных штогоднікаў, не прыносіць плёну.

Напэўна, можна канстатаваць адсутнасць у краіне такіх выданняў. Калі ж выйсці ў поле больш дэвіянтных разнавіднасцяў афіцыйных палітычных перыёдыкаў, то варта адзначыць некалькі публікацыяў рэгулярнага характару.

Максімальна набліжаным да канону можна было б лічыць рэгулярнае выданне гадавых аглядаў грамадскага жыцця дзяржаўным інфармацыйным агенствам БЕЛТА (События, люди, факты, 2004). Сапраўды, у гэтых публікацыях даецца афіцыйная хроніка, пэўныя статыстычныя звесткі, падставовыя дадзеныя адносна функцыянавання дзяржаўных інстытуцыяў і ходу выбарчых кампаніяў. Але ж спецыфіка апоры на інфармацыйную стужку БЕЛТА абумоўлівае надзвычай малы аналітычны складнік у гэтых выданнях, да таго ж яны ўскосна адносяцца да галіны прапагандысцкай працы, што вядзецца афіцыйным ідэалагічным апаратам, і з гэтай прычыны шмат якія значныя палітычныя падзеі альбо замоўчваюцца, альбо ім даецца некрытычнае і аднабокае тлумачэнне. Такім чынам, названыя выданні ў прынцыпе могуць быць змешчаныя ў шэрагу вылучаных намі палітычных выданняў малой перыядычнасці, аналагі якіх мы бачым у іншых краінах. Аднак такія выданні звычайна выконваюць крыху інакшую, больш даведачную функцыю, і, як правіла, побач з імі існуюць і выданні іншага характару.

Шэраг публікацыяў пра скліканні Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і ягоны дэпутацкі корпус не ў поўнай меры адпавядаюць тым крытэрам, якія мы вызначылі для палітычнага штогодніка. Так, яны факусуюцца на асобах парламентараў, і ў гэтым сэнсе нагадваюць амерыканскае выданне з яго ўвагай да асобаў кангрэсмэнаў. Аднак у адрозненне ад амерыканскіх калег укладальнікі беларускіх парламенцкіх зборнікаў абмежаваліся адно толькі біяграфічнымі звесткамі пра парламентараў, сухімі і надзвычай малаінфармацыйнымі статыстычнымі дадзенымі пра заканадаўчую працу палатаў парламента і парламенцкіх камісій, іх замежныя кантакты. Выданні амаль не адлюстроўваюць ані абставінаў абрання дэпутацкага корпуса, ані палітычнага жыцця, што прыпала на дадзеную дэпутацкую кадэнцыю. У прынцыпе гэткая выпусташанасць аб'ектыўна абумоўленая падпарадкаваным становішчам беларускай заканадаўчай улады ў палітычнай сістэме.

Што датычыцца кола неафіцыйнай і неакадэмічнай палітычнай навукі, то тут мы назіраем крыху большую ступень разнастайнасці ў складанні рэгулярных палітычных справаздачаў.

Напэўна, першай амбітнай спробай скласці палітычны штогоднік на беларускім матэрыяле былі выданні менскага «Аналітычнага грудка» (у некаторых выданнях — «Аналітычная група»), што паўстаў у асяродку інтэлектуальнага часопіса «ARCHE». Прымеркаванае да прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2001 г. першае выданне набліжалася да класічнага падыходу ў складанні палітычных штогоднікаў (Беларуская палітычная сыстэма..., 2001) і было

своеасаблівай спробай Summa politica albaruthenica. Яно змяшчала храналогію падзеяў, кароткія нататкі пра існыя ў краіне палітычныя партыі і грамадскія рухі, біяграфіі ключавых палітыкаў. Асноўным корпусам тэкстаў сталі аналітычныя артыкулы В. Булгакава, А. Ляховіча, А. Екадумава, І. Екадумавай ды іншых. Паводле сваёй канцэпцыі выданне рабіла фокус на падзеях 2001 г., але разам з тым яно ў нейкай ступені падводзіла вынікі першай дэкады існавання суверэннай палітычнай сістэмы ў Беларусі. Можна меркаваць, што далейшыя планы выдаўцоў прадугледжвалі прывязку да палітычных цыклаў — наступныя тамы серыі былі прымеркаваныя да выбараў мясцовых саветаў у 2003 г. (Беларуская палітычная сыстэма..., 2003), спалучаных з рэферэндумам выбараў дэпутатаў Нацыянальнага схода ў 2004 г. (Беларуская палітычная сыстэма..., 2005) (паміж імі з'явілася прамежкавае выданне пра абставіны беларуска-расейскай інтэграцыі; Беларуска-расійская інтэграцыя..., 2002), да наступных прэзідэнцкіх выбараў 2006 г. (Беларуская палітычная сцэна..., 2007). Як падаецца, выдаўцы не здолелі вытрымаць фармат выдання — ужо па назвах кніг відаць адыход ад канцэпцыі штогодніка і акцэнт на выключна інстытуцыянальным падыходзе (парламентарызм, мясцовая ўлада, палітычная сістэма ў цэлым). Хіба зборнікаў палягае ў тым, што артыкулы не ствараюць адзінай мазаікі: метадалагічныя падыходы часам процілеглыя, дадзеныя супярэчлівыя, у высновах аўтары супярэчаць адзін аднаму. У параўнанні з першым томам серыі ў далейшых выданнях амаль цалкам знікае навукова-даведачны апарат і спасылкі на крыніцы, храналагічная частка, што робіць іх малапрыдатнымі для практычнага ўжывання. Фіяска гэтай серыі публікацыяў завяршылася складаннем омнібуса з выбраных артыкулаў серыі (Палітычная гісторыя..., 2006), які фактычна падвёў пад ёй рысу. І хоць пасля выхаду гэтага кампендыума (дзе некаторыя памылкі былі выпраўленыя, а некаторыя звесткі абноўленыя) быў апублікаваны зборнік па выніках прэзідэнцкай кампаніі 2006 г. (Беларуская палітычная сцэна..., 2007), па выніках мясцовых выбараў 2007 г. і парламенцкіх выбараў 2008 г., гэтая лінія публікацыяў не была працягнутая, з'ўлялася толькі нізка артыкулаў у часопісе «ARCHE».

Але гэтая спроба ўзбагаціла некаторых з удзельнікаў выдання каштоўным досведам працы з такога кшталту публікацыямі. Адразу некалькі інстытуцыяў зрабілі ўласныя спробы скласці свае палітычныя штогоднікі. З'явілася серыя, якую публікуе менскі Інстытут палітычнай адукацыі (Зборнік аналітычных дакладаў, 2007; Зборнік аналітычных дакладаў, 2008; Изменения в общей ситуации..., 2005). У адрозненне ад згаданых выданняў серыя пазіцыянуе сябе найперш як практычнае выданне: яна не мае шырокага распаўсюду, даступная толькі зацікаўленым навукоўцам і грамадска-палітычным дзеячам, тэксты змяшчаюцца без пазначэння аўтара, рэдактарская праца зведзеная да

мінімуму, а першая публікацыя серыі ўвогуле распаўсюджвалася на правах рукапісу. Тым не менш з улікам нашай класіфікацыі палітычных штогоднікаў гэтае выданне займае сваю нішу — нішу кніг, сфакусаваных на дынаміцы элітаў у краіне. Так, аўтары звяртаюць пільную ўвагу на дынаміку ў колах кіроўчай эліты і ў апазіцыйных структурах, аналізуюць змены ў сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, ва ўнутранай і знешняй палітыцы. Адметнасцю серыі стала тое, што аўтары спрабуюць рабіць прагнозы развіцця сітуацыі ў краіне, што незвычайна для такога кшталту выданняў. Паводле трапнага водгука аднаго з чытачоў, гэтыя выданні могуць быць ахарактарызаваныя як «татальны аналіз усяго». Пры тым выклікае здзіўленне абазнанасць аўтараў ва ўнутрыпалітычным жыцці беларускай уладнай эліты (прынамсі, яна дэкларуецца), вялікая колькасць смелых, але неабгрунтаваных (прынамсі, неверыфікаваных і нефальсіфікаваных) высноваў. Як падаецца, аўтары патрапілі ў пастку, вельмі небяспечную для непублічных выданняў: адсутнасць верыфікацыі хоць бы праз публічнае абмеркаванне абумовіла тое, што большасць высноваў не можа быць прынятая ў якасці вынікаў даследавання, у якасці навукова абгрунтаваных мадэляў. У гэтым сэнсе дадзеная серыя публікацыяў — найбольш яскравы прыклад беларускай палітычнай аналітыкі.

Варта адзначыць, што незалежныя аналітычныя і даследчыя цэнтры публікуюць досыць шмат матэрыялаў, якія маглі бы стаць падмуркам для ўкладання больш-менш рэпрэзентатыўных рэгулярных аглядаў палітычнага жыцця Беларусі. Існуе шэраг выданняў галіновага характару, падсумоўваецца досвед існавання незалежнай палітычнай сістэмы ў Беларусі (Загорская, 2008), на працягу дзесяці гадоў робяцца агляды стану правоў чалавека ў краіне (Парушэньні правоў чалавека..., 2008), публікуюцца шматлікія справаздачы па выніках выбарчых кампаніяў (Беларуская палітычная сыстэма..., 2003), няма недахопу ў падвядзенні гадавых вынікаў у галіне народнай гаспадаркі. З 1999 г. выйшлі пяць выпускаў даведніка «Хто ёсьць хто ў Беларусі», дзе змешчаныя некалькі сотняў біяграфіяў людзей, што актыўна ўплываюць на грамадска-палітычнае жыццё Беларусі. Гэтае выданне можа служыць прыкладам тых складанасцяў, з якімі сутыкаюцца выдаўцы з кола незалежных цэнтраў пры спробе працаваць з беларускім матэрыялам, — толькі два выпускі даведніка былі апублікаваныя ў Менску (2001 і 2004 гг.), а тройчы кніга выходзіла за межамі краіны (1999 г. — Масква, 2000 г. — Беласток, 2007 г. — Вільня). Гэтая адметнасць уласцівая шмат якім публікацыям незалежных даследнікаў. Так, амбітнае выданне, прысвечанае палітычнаму і сацыялагічнаму параўнальнаму даследаванню развіцця Беларусі ў кантэксце трох прэзідэнцкіх выбарчых кампаніяў, падрыхтаванае Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, убачыла свет ажно ў расейскім Навасібірску (Президентские выборы..., 2006).

Зразумела, што да пазнакі месца выдання ў гэтым, як і ў іншых выпадках, трэба ставіцца крытычна: часта выдаўцы спрабуюць такім чынам падмануць пільнае вока беларускіх кантралюючых органаў. Аднак публікацыі за мяжой матэрыялаў па палітычных аспектах развіцця Беларусі ёсць звыклай справай.

Замежныя выдаўцы часам публікуюць асобныя матэрыялы па праблемах развіцця беларускай палітычнай сістэмы. Сапраўдны выбух такіх публікацыяў быў выкліканы тым розгаласам, які атрымала ў Еўропе і свеце беларуская выбарчая кампанія па выбарах прэзідэнта ў 2006 г. (Prospects for Democracy in Belarus, 2006; Sadowski, 2007). Час пакажа, наколькі ўвага гэтых выдаўцоў да беларускай праблематыкі будзе трывалая і ці выльецца яна ў рэгулярную публікацыю аналагічных аглядаў. Пакуль жа адзіны вядомы прыклад рэгулярнай публікацыі аглядаў грамадска-палітычнага развіцця Беларусі — зборнікі Усходнееўрапейскага дэмакратычнага цэнтра ў Варшаве: яны выходзілі ў 1999, 2002 і 2007 гг. і мелі збольшага падобную канцэпцыю ўкладання (Belarusian society…, 2007).

Але найбольш грунтоўнай і паспяховай спробай стварыць паўнавартасны палітычны штогоднік у Беларусі ёсць выданне «Белорусского ежегодника», якое ажыццяўляецца ў Вільні з 2003 г. (Белорусский ежегодник 2003, 2004; Белорусский ежегодник 2004, 2005; Белорусский ежегодник 2005, 2006; Белорусский ежегодник 2006, 2007). На сёння выйшлі чатыры тамы, што ахопліваюць перыяд з 2003 да 2006 г.[1]. Варта адзначыць, што выдаўцы не ставяць задачай папулярызацыю кніг серыі, бачаць у якасці мэтавай групы даволі абмежаванае кола (наколькі вядома, выданне пашыраецца пераважна з рук у рукі). Магчыма, адзін з вялікіх недахопаў серыі — даволі позняе з'яўленне выпускаў, прысвечаных справаздачнаму году: часам спазненне сягае палутара-двух гадоў, што непазбежна ўплывае на актуальнасць і запатрабаванасць матэрыялу. Наклад першага выпуска выдання склаў 500 асобнікаў, далей пра памер накладу не паведамлялася. Заяўлены першапачаткова намер выпускаць зборнік на англійскай і рускай мовах не быў рэалізаваны: кнігі выходзяць па-руску.

Варта адзначыць, выпускі гэтага штогодніка рыхтаваліся рознымі інстытуцыямі. Спачатку, у выпусках, прысвечаных 2003 і 2004 гг., гэта былі сайт «Наше мнение», грамадскае аб'яднанне «Сацыяльныя тэхналёгіі», лабараторыя «Новак» (Менск) і Інстытут Беларусі (Вільня), потым кола інстытуцыяў змянілася. Але ў якасці выдавецкай базы заўжды было пазначанае выдавецтва Віленскага універсітэта. У 2007 г. выданне было рэалізаванае ў межах праграмы Інстытута міжнародных адносінаў і палітычных навук Ві-

[1] У 2009 г. выйшаў чарговы том, прысвечаны 2008 г., але выданне з'явілася ў свет ужо пасля напісання гэтага артыкула. – *Заўвага рэд.*

ленскага універсітэта па развіцці адміністрацыйных і экспертных магчымасцяў у працэсе падрыхтоўкі Летувы да старшынства ў Еўразвязе.

Рэдактарскае кола застаецца амаль такім самым, калектыў беларускіх і літоўскіх навукоўцаў узначальваюць А. Фядута і С. Панькоўскі. Кола аўтараў мяняецца, але пры гэтым захоўваецца пэўнае нязменнае ядро, у якое уваходзяць самі рэдактары, а таксама А. Панькоўскі, В. Касцюгова і некаторыя іншыя прадстаўнікі пераважна незалежнай акадэмічнай і экспертнай супольнасці Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны, Латвіі, беларускія журналісты (у кожным выпуску аўтарскі калектыў складаецца з 10–17 асобаў, а сацыялагічны матэрыял прадстаўлены ад імя ўсяго калектыву лабараторыі «Новак» у трох з чатырох выпускаў). Выданне мае рэцэнзентаў, у якасці якіх стала выступаюць літоўскія палітолагі Р. Лапата і Г. Віткус.

Структурна зборнікі вытрымліваюць першапачаткова задуманы фармат. Выданне адкрываецца летапісам за справаздачны год. Гэта табліца, дзе адлюстраваныя важныя падзеі за кожны месяц года са сфераў «Дзяржава», «Грамадства», «Знешняя палітыка» і «Эканоміка». Далей ідзе шэраг згрупаваных па раздзелах артыкулаў без пазначэння аўтараў. Назвы раздзелаў варыююцца. Калі ў 2003 г. гэта былі раздзелы «Тэндэнцыі» і «Соцыум», то пазней — «Улада», «Грамадства», «Базіс» (гаворка пра эканоміку), «Соцыум». Далей чытачам прапануецца азнаёміцца з галоўнымі дзейнымі асобамі беларускай грамадска-палітычнай сцэны ў раздзеле «Аблічча».

Рэдактарскі калектыў заяўляе пра намер прэзентаваць у зборніках як аб'ектыўныя дадзеныя і факты (у першую чаргу ў сферы сацыялогіі і эканомікі), так і іх ацэнкі галіновымі экспертамі. Адзначаецца жаданне пазбягаць ацэнак палітычнага характару, хоць рэдактары прызнаюць непазбежнасць пэўнага суб'ектывізму. Таксама вельмі істотна, што у рэдактарскіх і аўтарскіх тэкстах наратары не баяцца фіксаваць прабелы ва ўласнай інфармаванасці — гэта якасна адрознівае выданне ад амбітных напаўфантастычных тэарэтычных мадэляў.

Эвалюцыя раздзела «Улада» падаецца найбольш яскравым прыкладам той пазітыўнай якасці, якая характарызуе гэтую серыю: выданне развіваецца, прабелы запаўняюцца, метадалогія удасканальваецца, аўтары здабываюць досвед. Пачынаючы з першага выпуска рэдактары знайшлі ўдалы фармат спалучэння афіцыйнай статыстыкі і хронікі кадравых прызначэнняў з аналітычнымі экспертнымі ацэнкамі прадстаўнічай (парламент і мясцовае самакіраванне) і выканаўчай улады, звяртаючы ўвагу таксама і на такі важны орган як Адміністрацыя прэзідэнта. Пазней быў запоўнены яшчэ адзін прабел — адсутнасць аналізу судовай улады. Правядзенне выбараў і рэферэндумаў таксама спачатку адлюстроўвалася ў гэтым раздзеле, як і стан працэсаў у сферы беларуска-расейскай інтэграцыі (пазней выбарчыя кампаніі сталі паказваць у раздзеле «Грамадства»,

агляд знешняй палітыкі стаў больш шматвектарным, а ў выпуску за 2005 г. з'явіўся раздзел па беларуска-ўкраінскіх дачыненнях). Апошні на сёння выпуск за 2006 г. мае даволі стройны і гарманічны раздзел «Улада», цалкам адпаведны сістэме ўлады ў краіне. Адзінае дапаўненне, якое магло б палепшыць дадзены раздзел, — гэта больш грунтоўны аналіз зменаў у заканадаўстве, што адбываюцца за справаздачны перыяд. Пакуль важныя законы і прэзідэнцкія акты звычайна толькі ўзгадваюцца альбо аналізуецца іх грамадска-палітычнае, а не прававое значэнне.

Раздзел «Грамадства», наадварот, традыцыйна выходзіць найбольш кантраверсійным, бо тут найбольш выяўляецца аўтарскі суб'ектывізм у адборы тэмаў. Спорт, медыі і развіццё грамадзянскай супольнасці выступаюць сталымі тэмамі, пазней з'явіліся спецыяльна прысвечаныя пункты пра палітычныя партыі, канфесіі, адукацыю, культуру. У 2006 г. асобнай тэмай быў вылучаны інтэрнэт і звязаныя з ім грамадскія працэсы. Метадалагічныя недахопы «Белорусского ежегодника» ў гэтым раздзеле выяўляюцца найбольш яскрава: прыватныя меркаванні, адлюстраваныя на фоне фcraktалогіі і афіцыйнай хронікі, часцяком успрымаюцца чытачом як нешта аб'ектыўнае, навукова выверанае. Падаецца, што рэдакцыі варта больш грунтоўна размежаваць падачу фактаў ад адлюстравання суб'ектыўных (часам даволі спрэчных) меркаванняў. Пакуль тут няма розніцы паміж выкладаннем факта і ягонай ацэнкай аўтарам.

Раздзел «Соцыум» размешчаны асобна ад раздзела «Грамадства» — такім чынам рэдакцыя падзяліла суб'ектыўныя экспертныя матэрыялы і матэрыялы сацыялагічных даследаванняў (звычайна прадстаўленыя лабараторыяй «Новак»). Структура гэтага раздзела прадугледжвае некалькі сталых і спецыфічных тэмаў: меркаванне грамадства пра актуальныя палітычныя працэсы (з акцэнтам на выбары), медыйная аўдыторыя, стаўленне грамадства да беларуска-расійскай інтэграцыі і да стану народнай гаспадаркі.

Гэты штогоднік застаецца бадай што найбольш амбітнай па задуме, найбольш фундаментальнай і дасканалай па форме рэалізацыі спробай рэгулярнага фіксавання хады палітычнага працэсу ў Беларусі з усёй яе дынамікай і статыкай. Як падаецца, выдаўцы і рэдактары пакуль яшчэ шукаюць фармат і вагаюцца ў акрэсленых вышэй жанравых рамках палітычнага штогодніка. Галоўнай пазітыўнай рысай «Белорусского ежегодника» можна назваць тое, што ён пастаянна ўдасканальваецца і прагрэс ад выдання да выдання відавочны. Сувязь тэарэтычных міждысцыплінарных пабудоваў і эмпірычнага даследчага матэрыялу стала тым каштоўным зернем, якое робіць гэтыя штогоднікі цікавымі і карыснымі з навуковага пункту гледжання.

**Літаратура**

1. Беларуска-расійская інтэграцыя. Аналітычныя артыкулы. Менск: Энцыклапедыкс, 2002.
2. Беларуская палітычная сыстэма і прэзідэнцкія выбары 2001 году / рэд. В. Булгакаў. Менск — Варшава: Аналітычная группа, IDEE, 2001.
3. Беларуская палітычная сцэна і прэзідэнцкія выбары 2006 году. Аналітычныя артыкулы / рэд. В. Булгакаў, В. Сіліцкі. Вільня: Інстытут Беларусістыкі, 2007.
4. Белорусский ежегодник 2003: сборник обзорных и аналитических материалов по развитию ситуации в Республике Беларусь в 2003 году / сост. Федута А. И. Вильнюс: Институт Беларуси, Общественное объединение «Социальные технологии», Сайт «Наше мнение», Аксиометрическая лаборатория «Новак», Vilniaus universiteto leidykla, 2004.
5. Белорусский ежегодник 2004: сборник обзорных и аналитических материалов по развитию ситуации в Республике Беларусь в 2004 году / сост. Федута А. И. Вильнюс, 2005: Институт Беларуси, Общественное объединение «Социальные технологии», Сайт «Наше мнение», Аксиометрическая лаборатория «Новак», Vilniaus universiteto leidykla, 2005.
6. Белорусский ежегодник 2005: сборник обзорных и аналитических материалов по развитию ситуации в Республике Беларусь в 2005 году / сост. Федута А. И. Вильнюс, 2006: Институт Беларуси, Сайт «Наше мнение», Vilniaus universiteto leidykla, 2006.
7. Белорусский ежегодник 2006: сборник обзорных и аналитических материалов по развитию ситуации в Республике Беларусь в 2006 году / Вильнюс: Центр исследований Восточной Европы [и др.], Vilniaus universiteto leidykla, 2007.
8. Грамадазнаўчыя навукі: метадалогія, праблемы, перспектывы: Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Эканоміка. Культуралогія: Штогоднік навук. дaслед. каф. грамадазн. навук БДПУ. Мінск: ВВЦ БДПУ, 2001.
9. Загорская, М., Сехович, В., Старикевич, А. Беларусь. 1991–2006. Итоги. Минск, 2008.
10. Зборнік аналітычных дакладаў. Мінск: Цэнтр палітычнай адукацыі, Цэнтр выдавецкіх ініцыятыў, 2007.
11. Зборнік аналітычных дакладаў 07/08. Мінск: Цэнтр палітычнай адукацыі, Цэнтр выдавецкіх ініцыятыў, 2008.
12. Изменения в общей ситуации в Беларуси с 20 сентября 2003 г. по 1 декабря 2004 г. Менск: Цэнтр палітычнай адукацыі, 2005.
13. Люди. События. Факты, 2006–2007: справочник / авт. — сост. Агафонова М. Н. и др. Минск: БЕЛТА, 2007.
14. Международная безопасность и разоружение: Ежегодник СИПРИ, 1994 / Стокгольм. междунар. ин-т пробл. мира; А. Д. Ротфельд, Т. Финдлей, П. Валленштейн и др.; науч. ред. С. Чугров. М.: Наука, 1994.
15. Местные выборы в Беларуси (октябрь 2006 — январь 2007) / сост. Т. Гацуро и др. М.: Белорусский хельсинский комитет, 2007.
16. Беларуская палітычная сыстэма ў найноўшай палітычнай гісторыі Беларусі / рэд. і ўклад. В. Булгакаў. Менск: Аналітычны грудок, 2003.
17. Беларуская палітычная сыстэма беларускага парлямэнтарызму. Менск: Аналітычны грудок, 2005.

18. Палітычная гісторыя незалежнай Беларусі / рэд. В. Булгакаў. Вільня: Інстытут Беларусістыкі, 2006.
19. Парушэньні правоў чалавека ў Беларусі ў 2007 годзе / рэд. В. Бяляцкі, Т. Рэвяка. Менск, 2008.
20. Политическая элита: Политический ежегодник / ред. Г. Кондрашев. М.: ОЛМА-ПРЕСС, 2003.
21. Президентские выборы в Беларуси: от ограниченной демократии к неограниченному авторитаризму (1994–2006) / ред. О. Манаев. Новосибирск: Водолей, 2006.
22. Рабочий ежедневник Президента РФ. Вып. 1 (январь — май 2005 г.) / сост. Шпунт А. В. М.: Европа, 2005.
23. Синие страницы России: национальный справочно-энциклопедический ежегодник. Вып. 1 / ред. А. Лушников. М., 1995.
24. События, люди, факты: Ежегодник БЕЛТА. 2003–2004 / сост. Бутевич Т. Н.; сост. Громыко А. К. и др., общ. ред. Кернога Н. З. Минск: БЕЛТА, 2004.
25. Хто ёсць хто ў Беларусі / укл. Л. А. Андросік, В. Ф. Голубеў і інш., каардынатар В. А. Трыгубовіч. Вільня, 2007.
26. Чавусаў, Ю. Свабода мэтадалёгіі — мэтадалёгія свабоды // Палітычная сфера. 2004. № 3.
27. Япония 2003–2004. Ежегодник. М.: МАКС-Пресс, 2004.
28. Annuaire stratégique et militaire 2003. Paris, 2004: Fondation pour la recherche stratégique; ed. Odile Jacob.
29. Barone, M., Cohen, R. E. The Almanac of American Politics, 2008. Washington: National Journal Group, 2008.
30. Barone, M., Ujifusa, G. The Almanac of American Politics, 1988: The President, the Senators, the Representatives, the Governors: Their Records and Election Results, Their Staates and Districts. Washington: National Journal, 1988.
31. Belarusian society' 2007. Hopes, illusions, perspectives. Warsaw — Minsk: IDEE, ed. M. Pejda, 2007.
32. Freedom in the World 2003: The Annual Survey of Political Rights and Civil Liberties. N. Y., Freedom House Survey Team, Rowman & Littlefield Publishers, Inc., 2003.
33. Homo historicus 2008. Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад. рэд. А. Ф. Смаленчука з удзелам І. М. Дубянецкай. Вільня: ЕГУ, 2008.
34. How they voted on civil liberties — The 110 Congress. Washington: ACLU, 2008.
35. Italian Politics: The Second Berlusconi Government / ed. J. Blondel, P. Segatti; New York-Oxford. Berghahn Books, 2003.
36. Österreichisches Jahrbuch für Politik. 2004 — Wien, 2005: Verlag fur geschichte und Politik. XV.
37. People‘s Republic of China Yearbook 2008 — Beijing: China Yearbook, 2009.
38. Politics in America 2008: The 110th Congress / eds. Jackie Koszczuk, Martha Angle; Washington, 2007: CQ Press.
39. Prospects for Democracy in Belarus / eds. Forbrig Joerg, Marples David R., Demeš Pavol. 2006 by The German Marshall Fund of the United States. Washington — Bratislava, 2006.
40. Rocznik polityczny i gospodarczy / Political and economic year book / Политический и экономический ежегодник.1974 / Państwowe Wydawnictwo Ekonomiczne — Warszawa, 1975.

41. Rocznik polskiej polityki zagranicznej 2008 / Polski Instytut Spraw Międzynarodowych, 2008.
42. Sadowski, R. Belarus 2006 — Warsaw, Centre for Eastern Studies, 2007.
43. Salzburger Jahrbuch für Politik 2007. Boulhau, 2008 (eds. H. Dashs, R. Floimair).
44. Slovensko 2008. Súhrnná správa o stave spoločnosti / ed. Bútora M., Kollár M., Mesežnikov G. Inštitút pre verejné otázky, Bratislava, 2009.